ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE ¢ 50

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431, Tel.: AX 1-8038

Год XIX. № 150 Нью Ёрк October — Кастрычнік 1969 New York Vol. XIX. № 150

## ЗАМІЖ ПАЭТЫ = ЗАГАВАРЫЎ РОБАТ

Паэта Ніл Гілевіч дасюль быў ведамы, як паэта-грамадзянін і глыбокі беларускі патрыёт, як адзін з найбольш гарачых абароньнікаў у сваёй паэзіі й крытычных ды публіцыстычных артыкулах нацыянальных скарбаў беларускага народу: ягонае роднае мовы, гістарычнае мінуўшчыны й ейных помнікаў, народнае беларускае песьні, нацыянальнага мастацтва. Але вось, ні зь сяго — ні з таго, у сваім найнавейшым вершы „Мова майго народу", надрукаваным у „Дні паэзіі" 1969 году, Ніл Гілевіч раптам і як-быццам-бы нат дэманстрацыйна прыводзіць думку, што ў вабставінах савецкае рэчаіснасьці беларуская мова быццам мае неабмежаныя магчымасьці свайго жыцьця й разьвіцьця й ніякае абароны не патрабуе. Затым нельга ня прысьвяціць жмені ўвагі гэтаму Гілевічаваму вершу.

Калі Ніл Гілевіч у вершы гэтым цьвердзіць, што:

*Даў мове свабоду Чырвоны*
*Кастрычнік:*
*Як кветку жывую, у сэрцах*
*расквеціў, —*

дык у тэорыі — гэта на першы пагляд нат гістарычная праўда. Сам творца гэнага Чырвонага Кастрычніка" Ленін, хоць і быў прыхільнікам пашырэньня расейскае мовы сярод нерасейскіх народаў імпэрыі, быў навет прыхільнікам асыміляцыі нерасейскіх народаў, але пашырэньня й асыміляцыі свабоднай і дабравольнай, а ня вымушаных абставінамі, што ставілі-б расейскі народ і расейскую мову ў упрывілеяванае становішча.

Яшчэ ў 1913 годзе ў ведамай сваёй працы „Критические заметки па национальному вопросу" Ленін цьвердзіў: „ніякіх прывілеяў ніводнай нацыі, ніводнай мове"; „раўнапраўе нацыяў і моваў, недапусканьне якіх-бы там ні было **прывілеяў** у гэтым дачыненьні"; „той не марксыст, той навет ня дэмакрат, хто ня вызнае раўнапраўнасьці нацыяў і моваў, не змагаецца з усякім нацыянальным гнётам або нераўнапраўем"; „ськівнуць ... усякія прывілеі аднэй з нацыяў або аднэй з моваў — бязумоўны абавязак пралетарыяту"; „пралетарыят вітае ... усякую асыміляцыю нацыяў за выняткам прымусовай або такой, што абапіраецца на прывілеі".

Гэтак ставіў пытаньне Ленін і ў часе Кастрычніцкай рэвалюцыі, і пасьля яе, калі стаўся кіраўніком савецкае дзяржавы, і не зьмяніў гэтага свайго становішча да самае сьмерці. Настырліва паўтараныя сяньня тэрміны „вялікі рускі народ", „старэйшы брат", „самы перадавы й прагрэсыўны", безь якіх не абыходзіцца савецкая прапаганда, зусім няведамыя ў ленінскім лексыконе. Таксама чужой і няведамай была Леніну й сяньняшняя партыйная канцэпцыя „другой роднай мовы" для нерасейскіх народаў, у якасьці якой накідаецца сяньня зьверху расейская мова.

Абараняючы прынцып раўнапраўнасьці моваў і нацыяў ды выступаючы супраць упрывілеяванага палажэньня расейскае мовы й расейскага народу, Ленін, пэўне-ж, ня кіраваўся нейкімі асаблівымі сымпатыямі да нерасейскіх народаў, ані матывамі абсалютнай справядлівасьці. Не. Ён гэта рабіў адно для справы рэвалюцыі, добра разумеючы, што без правільнага разьвязаньня нацыянальнага пытаньня прыцягнуць да рэвалюцыі нерасейскіх народаў ня ўдасца.

Няма патрэбы й даводзіць, што сяньняшняя нацыянальная палітыка ў БССР — поўнае запярэчаньне ленінскае нацыянальнае палітыкі. Праўда, у БССР няма афіцыйнага й беспасярэдняга прымусу ў пытаньні ўжываньня й разьвіцьця моваў, але ёсьць прымус пасярэдні, што ўжыцьцяўляецца шляхам спэцыяльнага тварэньня гэткіх абставінаў, пры якіх выцісканьне беларускае мовы з публічнага й нат прыватнага жыцьця ды замена яе ўпрывілеяванай з кажнага гледзішча расейскай мовай становіцца няўхільным. Затым сяньняшняя савецкая нацыянальная палітыка ня мае найменшых асноваў называцца ленінскай **нацыянальнай** палітыкай і нацыянальнай палітыкай „Чырвонага Кастрычніка".

Заява ў Гілевічавым вершы:

*Прайдуся па школах — у Мінску,*
*у Гродна,*
*У Віцебску, Брэсьце або*
*ў Магілёве, —*
*Як хараша дзеткі шчабечуць*
*на роднай*
*Сваёй беларускай матульчынай*
*мове! —*

поўнасьцяй запярэчваецца савецкай рэчаіснасьцяй. Хоць у бальшыні сваёй пачатковыя й сярэднія школы БССР намінальна называюцца беларускімі, але навет у шмат якіх сельскіх мясцовасьцях, а ў гарадзкіх і пагатове, вядзецца ў школах гэтых навучаньне на расейскай мове за выняткам навучаньня беларускае мовы й літаратуры. Славутая хрушчоўская школьная рэформа 1958 году пытаньне навучаньня беларускае мовы як прадмету ў расейскіх школах БССР, якіх у рэспубліцы вялікая колькасьць, пакінула на вырашэньне саміх вучняў і іхных бацькоў, што пры сяньняшніх абставінах практычна прыводзіць да адмовы ад навучаньня свае роднае мовы. Ужо факт, што на ўступных экзаменах у вышэйшыя навучальныя ўстановы БССР няма экзаменаў зь беларускае мовы й літаратуры, а строга абавязваюць экзамены з расейскай мовы й літаратуры, дае гэтым апошнім упрывілеяванае палажэньне. Гэткая школьная палітыка прывяла да таго, што, як сьцьвердзіў у сваёй кнізе „Адукацыя ў Савецкай Украіне", выдадзенай у 1968 годзе паангельску ў Канадзе, Канадыец Джон Коляскі, якому ўдалося пабываць два гады ў Савецкім Саюзе, навет у сталіцы БССР няма сяньня ніводнае школы зь беларускаю моваю навучаньня.

Ня менш несамавітая й Гілевічава заява, што, як ён кажа, „У кожным тэатры і з кожнай трыбуны я чую пявучыя, мілыя гукі" роднае мовы. Зусім не хавае навет і савецкі друк, што з адзінаццацёх прафэсійных тэатраў БССР усяго тры працуюць на беларускай мове й што беларускае грамадзтва ўважае гэта ненармальным, крыўдным і шкодным для разьвіцьця беларускае культуры. Вось жменя выказваньняў на гэтую тэму, зафіксаваных у савецкім друку: драматург Кандрат Крапіва: „больш бурнаму разьвіцьцю нацыянальнай драматургіі ... спрыяла-б тое, каб у нас большая колькасьць тэатраў працавала на беларускай мове"; драматург Аўген Рамановіч: „У рэспубліцы мала тэатраў, якія ставяць спэктаклі на беларускай мове" — абедзьве цытаты з 1958 году; крытык Барыс Бур'ян: „Гаворачы аб пастаноўцы п'ес беларускіх аўтараў, трэба ўлічваць і тое, што чатыры абласныя тэатры працуюць на рускай мове. Пры перакладах шмат чаго губляецца нават з таго калярыту, які быў у аўтарскім арыгінале. І п'есы ўжо нельга катэгарычна лічыць **беларускімі** толькі на той падставе, што яны былі напісаны пабеларуску", — цытата з 1962 году; драматург Аркадзь Маўзон: „У рэспубліцы вельмі мала тэатраў. Акрамя таго, — толькі тры зь іх працуюць на роднай мове" — цытата з 1966 году; кандыдат мастацтвазнаўства А. Савіцкі: „Мала тэатраў працуе на беларускай мове... гэтая праблеба таксама патрабуе ўвагі пры стварэньні новых калектываў" — цытата з 67 году. Дык ня мог тады Ніл Гілевіч „у кожным тэатры" чуць „пявучыя, мілыя гукі" роднае мовы.

Можа хтосьці падумае, што Ніл Гілевіч у сваім вершы „Мова майго народу" бярэ жаданае за сапраўднае, хоць і наскрозь супярэчнае гэнаму жаданаму, або што ў вершы ягоным — моцна схаваная гіронія на савецкую моўную палітыку. Калі-б нат і дапусьціць падобныя інтэнцыі паэты, дык што з гэтага, калі сам верш усёроўна можа быць зразуметы шырокім колам чытачоў, як шчырае ўслаўленьне нацыянальнай палітыкі партыі ў галіне мовы.

Застаецца тады адно прыгадаць Нілу Гілевічу словы зь ягонага собскага вершу 1962 году:

*Глядзіце лепей, каб разумны робат*
*Замест паэта не загаварыў.*

**Ст. Станкевіч**

## УВАГА! УВАГА!

### ВАЖНАЕ ДЛЯ ЎСІХ

**Заміж траціць грошы на купляньне віншавальных картак і паштовыя маркі, а таксама й дарагі час на падпісваньне й выпісваньне адрасоў дзеля калядных і навагодніх павіншаваньняў, раім зрабіць гэта таней, прасьцей і карысьней у нашай газэце, зьмяшчаючы сваё імя й прозьвішча пад супольным павіншаваньнем.**

**Ад імя тых, што да 30 лістапада прышлюць па 10 даляраў на адрыс газэты „Беларус" на гэтую мэту, будзе ў сёлетнім сьнежанскім нумары газэты зьмешчанае прыгожа аформленае, як і мінулымі гадамі, супольнае каляднае й навагодняе павіншаваньне Сваякоў, Прыяцеляў і Знаёмых.**

**Робячы гэтак, Вы дапаможаце матарыяльна нашай газэце, якая апошнім часам знаходзіцца ў цяжкім грашовым палажэньні. Прысланыя Вамі грошы за павіншаваньні будуць намі разглядацца, як Вашая ахвяра на Выдавецкі Фонд „Беларуса".**

**Дык не адкладаючы, адразу-ж выпішце чэк на 10 даляраў на „Беларуса" ды перашліце яго на адрыс:**

"BIELARUS"
P. O. Box 109
Jamaica, N. Y. 11431

**Гэтым зробіце добрую грамадзкую й карысную сабе справу.**

**Выдавецтва „Беларуса"**

## ДЫСКРЫМІНАЦЫЯ БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЫ Ў БССР

Паводля сьветчаньняў заходніх турыстых беларускага паходжаньня, што сёлета наведалі БССР, камуністычная ўлада на Беларусі сьведама й пляназа праводзіць дыскрымінацыю беларускага школьніцтва. Беларускія школы знаходзяцца ў цясьнейшых і старэйшых будынках, горш абсталяваныя, абсаджаныя менш кваліфікаваным пэдагагічным пэрсаналам. Мясцоваму жыхарству гэта не сакрэт, кажны гэта бачыць, але тыя, каму гэта баліць, ня шмат могуць зрабіць, каб палепшыць сытуацыю. Сьведамыя Беларусы, не зважаючы на нявыгады, у якіх знаходзяцца беларускія школы, пасылаюць усё-ж у іх сваіх дзяцей. Знаходзіцца аднак цімала й гэткіх, што выбіраюць расейскую школу, якая карыстаецца лепшымі выгадамі. Гэтак, шляхом эканамічнага й бытавога ціску, Масква намагаецца русыфікаваць Беларусаў.

## 4-Ы ЯПАРХІЯЛЬНЫ САБОР БАПЦ

Як паведамлялася ў папярэднім нумары нашае газэты, чарговы, скліканы што тры гады, Япархіяльны Сабор БАПЦ адбыўся 30-га жніўня сёлета ў будынку Сабору сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне з удзелам трох Япіскапаў, сьвятароў ды вернікаў з усіх парахвіяў БАПЦ у Задзіночаных Штатах і Канадзе.

Із справаздачаў аб Саборы відаць выдатны поступ у разьвіцьці беларускага царкоўнага жыцьця ды ў разбудове БАПЦ у Амэрыцы нагул за апошнія тры гады. Каб у будучыні даць шырэйшую магчымасьць іншым беларускім асяродкам прыймаць большы ўдзел у дзейнасьці Япархіі, гэтым разам была на Саборы пакліканая Япархіяльная Управа БАПЦ з асобаў, што жывуць у Кліўленьдзе й аколіцах. Яго Праасьвяшчэнства Япіскап Андрэй мае абняць старшынства Япархіяльнай Управай.

Разглядалася на Саборы справа беларускай багаслужэбнай мовы. У сувязі з гэтым выбраная Камісія дзеля перакладу на беларускую мову багаслужэбных кнігаў у васобах а. Васіля Кендыша, як старшыні, і сп. Пятра Манькоўскага ды сп. Міхася Міцкевіча, як сяброў.

Пастаноўлена склікаць у наступным годзе Усебеларускі Праваслаўны Сабор. Падрыхтаваўчая Камісія Ўсебеларускага Праваслаўнага Сабору пакліканая ў складзе а. Васіля Кендыша, сп. Пятра Манькоўскага й іншых асобаў. Яна мае апрацаваць парадак дня Сабору й падрыхтаваць тыя пытаньні, што будуць разглядацца на Саборы. Сабор мае абняць усіх праваслаўных Беларусаў у цэлым сьвеце.

Місыйную дзейнасьць у Япархіі: выдаваньне царкоўных часапісаў, кнігаў, засноўваньне новых парахвіяў і г. д., мае пераняць Сьв. Сынод БАПЦ.

Сабор быў праведзены, як і папярэднія Саборы, Яго Высокапраасьвяшчэнствам Архіяпіскам БАПЦ Уладыкам Васілём. Уладыка Васіль і Уладыка Мікалай адслужылі Багаслужбу ў нядзелю 31 жніўня пасьля заканчэньня Сабору ў суслужэньні Дыякана а. Карпа Стара. Уладыка Андрэй, на запрашэньне а. Васіля Кендыша, служыў у царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку (Нью Брансьвіку) у сулужэньні Дыякана а. Міхаіла Страпка. Пасьля абедзьвюх Архірэйскіх Багаслужбаў у Нью Ёрку й Нью Брансьвіку адбыліся ўрачыстыя прыняцьці.

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

### ЧАЦЬВЕРТАГА ЯПАРХІЯЛЬНАГА САБОРУ БЕЛАРУСКАЙ АЎТАКЕФАЛЬНАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ Ў АМЭРЫЦЫ Й КАНАДЗЕ

Мы, Герархі, сьвятарства й вернікі, удзельнікі 4-га Сабору Амэрыканска-Канадзкай Япархіі сьв. БАПЦарквы, які адбыўся дня 30 жніўня ў Саборы сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, сьцьвярджаем наступнае:

1. Сьв. БАПЦарква ў прынцыпе стаіць на пазыцыях здаровага ўсехрысьціянскага экумэнічнага руху ў духу навукі Госпада нашага Ісуса Хрыста, але адначасна войстра асуджае спробы чырвонае Масквы перабраць у свае рукі кіравецтва сучасным экумэнічным рухам у вольным сьвеце, каб паставіць яго на службу сваім бязбожным захопніцкім мэтам. Цьвёрда трымаючыся апостальскіх правілаў, пастановаў сямі Ўсяленскіх Сабораў і нашае беларускае, царкоўна-нацыянальнае традыцыі, мы ня можам паставіцца да такога руху інакш, як толькі нэгатыўна.

2. Чацьверты Япархіяльны Сабор сьв. БАПЦарквы абвінавачвае бязбожную ўладу Масквы ў кантынуацыі старой царскай палітыкі выкарыстоўваньня Праваслаўнай Царквы на нашых землях дзеля русыфікацыі Беларускага Народу і замацаваньня на ім духовых путаў няволі. Перад публічнай апініяй усяго прагрэсыўнага сьвету мы войстра асуджаем нягодную акцыю прасьледу праваслаўных вернікаў-Беларусаў Масквою, як доказ яе сярэднявяковае адсталасьці.

3. Чацьверты Япархіяльны Сабор з радасьцяй адзначае далейшы рост нашай сьв. БАПЦарквы на амэрыканскай зямлі за апошнія тры гады, ды поўную няўдачу ўсіх спробаў нашых ворагаў у кірунку спыненьня яе разьвіцьця. Сабор заклікае ўсіх Беларусаў, бяз розьніцы пераканаяньняў, падтрымаць акцыю тварэньня новых парахвіяў БАПЦарквы і ўзмацаваньня тых, што ўжо існуюць. Мы непахісна верым, што з ласкі Усявышняга і з адданай дапамогай усіх вернікаў, наша Сьвятая Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква выканае сваю вялікую місію сярод беларускай эміграцыі.

## ЮЛІЯНА ДУБЕЙКОЎСКАЯ НЯ ЖЫВЕ

Дайшла да нас сумная вестка, што ў канцы верасьня сёлета ў Заходняй Нямеччыне, у г. Нюрэмбэргу, на 83-м годзе жыцьця, памерла заслужаная беларуская дзяячка Юліяна Дубейкаўская, сяброўка Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ды плённая супрацоўніца выданьняў БІНіМ, часапісаў „Конадні" й „Запісы".

Сьв. пам. Ю. Дубейкаўская, актыўная ўдзельніца шмат якіх вехавых падзеяў беларускага нацыянальнага адраджэньня, пакінула па сабе вялікі (тымчасам машынапісны адно) том успамінаў, што кідаюць багатае сьвятло й даюць шмат цікавых дэталяў да беларускае навейшае гісторыі, асабліва нашаніўскага пэрыяду. У кароткай аўтабіяграфічнай даведцы, якой пачынаюцца ўспаміны, яна напісала: „Нарадзілася я ў Вільні 30 лістапада 1886 г. як дачка нямецкае купецкае сям'і, якая ўжо ў двух пакаленьнях жыла там і прыняла звычаі й мэнтальнасьць гэтага мілага краю".

Ушаноўваючы ў нашай газэце 80-годзьдзе Дубейкаўскае, два гады таму, мы казалі пра ейнае „нялёгкае, цалком адданае іншым" жыцьцё. Было яно запраўды гэткім, было нялёгкім і шчодрым, было даўгім, плённым і сьветлым. Сьветлай і вечнай будзе памяць па Юліяне Дубейкаўскай удзячных прадаўжальнікаў справы служэньня „міламу краю" — Беларусі.

## ЛЕНІН ПРА ЎСХОДНЮЮ МЯЖУ БЕЛАРУСІ

Як дапаўненьне да надрукаванае ў папярэднім нумары „Беларуса" нататкі „Пра беларускія землі ў РСФСР", варта падаць і наступнае:

У манаграфіі савецкага дасьледніка І. Г. Малага „Вопросы статистики населения в трудах В. И. Ленина" (Масква: выдавецтва Цэнтральнае Статыстычнае Ўправы СССР, 1963) кажацца, што Ленін у канцы 1907 году, пераглядаючы „Календарь для всех на 1908 год", адным із суаўтараў якога ён быў, на зьмешчанай у календары карце Эўропы „правёў алавіком лінію, якую ён характарызаваў, як ,прыблізную мяжу вялікарускага жыхарства'." Карта, — піша Малый, — захоўваецца ў Цэнтральным партыйным архіве Інстытуту марксызму-ленінізму; на ёй ад Балтыцкага да Чорнага мора праведзеная лінія, што паказвае прыблізную мяжу вялікарускага жыхарства" (б. 69).

Дзеля таго, што заходняя мяжа вялікарускага жыхарства становіць адначасна ўсходнюю мяжу жыхарства беларускага, цікава было-б ведаць, як Ленін гэную мяжу правёў. Тым больш цікава, што ўсходняя мяжа Беларускае ССР зьменьвалася колькі разоў, пачынаючы ад студзеня 1919 году, пасоўваючыся то на захад, то на ўсход. Ці дайшла яна да ленінскае лініі з 1907 году? Паказальна, што ніхто зь беларускіх савецкіх гісторыкаў пытаньня гэтага ніколі не закранаў, а гэная ленінская карта нідзе надрукаваная ня была. Выдаўцом часапісу „Коммунист Белоруссии", г. зн. ЦК КПБ, перад тым, як дакараць дасьледніка Грынблата за „аб'ектывісцкі падыход" да пытаньня ўсходняе мяжы БССР ды „няправільнае разуменьне гэтага пытаньня", варта мо было-б пацікавіцца, як Ленін „правёў лінію"? Можа тады й Грынблата не давялося-б лаяць?

**Я. З.**

BIELARUS
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.,
166 — 34 Gothic Drive, Jamaica, N. Y. 11432.
Subscription $ 6.00 yearly.

„БЕЛАРУС" —Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
Выпіска зь перасылкаю — 6 дал. на год.

# МІЖ НАВУКОВАЙ ПРАЎДАЙ І ПАРТЫЙНАЙ ДОГМАЙ

Агульна ведама, што ўва ўсіх тых выпадках, дзе навуковая праўда сутыкаецца з партыйнай догмай, у Савецкім Саюзе перавага аддаецца апошняй. У дачыненьні да Беларускай ССР супярэчнасьць між навуковай праўдай і партыйнай догмай асабліва зырка выступае ў насьвятленьні гістарычнае мінуўшчыны Беларусі. Савецкая, дакладней партыйная гістарыяграфія, абапіраючыся на палітычныя, а не навуковыя крытэрыі, у дачыненьні да мінуўшчыны Беларусі выпрацавала цьвёрдыя прынцыпы, якія падаюцца як строга абавязваючыя й бяздыскусійныя догмы. Да якіх несамавітых вынікаў прыводзіць гэткае дагматычнае насьвятленьне мінуўшчыны беларускага народу, наглядна паказвае выдадзеная ў канцы леташняга 1958 году Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі й фальклёру Акадэміі навукаў БССР праца кандыдата гістарычных навукаў Міхаіла Грынблята „Белоруссы — очерки происхождения и этнической истории".

Чытаючы гэтую працу, адразу пераконваешся, што ейны аўтар грунтоўна абзнаёмлены з дасьледваным ім пытаньнем. Ён выкарыстаў вялікае багацьце гістарычных крыніцаў і дадзеных археалёгіі. этнаграфіі й мовы й у сваім дасьледваньні, дарэчы прадпрынятым на гэтую тэму ў БССР упяршыню, імкнецца як мага быць навукова-аб'ектыўным. Нажаль, у шмат якіх выпадках, дзе гістарычная праўда ўваходзіць у супярэчнасьць з партыйнай догмай, аўтар, трэба думаць, супраць свайго перакананьня, часта пярэчыць самому сабе й робіць высновы, што ня выцякаюць з папярэдняга аналізу.

Пры ўсім сваім намаганьні быць у згодзе з партыйнай лініяй, у некаторых пытаньнях аўтар усё-ж быў змушаны пайсьці за голасам свайго навуковага сумленьня й адкрыць крыху тае бясспрэчнае навуковае праўды, пра якую рэкамэндуецца сяньня пісаць нябыліцы або ў найлепшым выпадку маўчаць. Перш-наперш датычыць гэта да межаў расьсяленьня беларускага народу на поўначы і ўсходзе ягонае тэрыторыі, як у дагістарычнай мінуўшчыне, на працягу ўсяе гісторыі, а таксама й сяньня.

І тут пры агульнай канцэпцыі сваёй працы, аўтар, калі-б нат і хацеў, ня мог ня сьцьвердзіць, што паўночна-ўсходняя часьць тэрыторыі, на якой фармавалася беларуская народнасьць, а пасьлей — беларуская нацыя, сягае далёка на поўнач і на ўсход за межы сяньняшняе БССР. Грынблят канкрэтна пералічае сяньняшнія раёны Пскоўскай, Калінінскай, Смаленскай і Бранскай вобласьцяў РСФСР, дзе, як ён кажа літаральна, „пашыраны гаворкі, якія належаць або належалі да беларускай мовы". У воднэй толькі Смаленскай вобласьці ён пералічвае дванаццаць раёнаў, улучна із Смаленскім раёнам, што належаць або, як ён кажа, належалі, да беларускай моўнай тэрыторыі, дыў тры раёны, што да гэтай моўнай тэрыторыі належаць часткова. Пытаньне гэтае Грынблят ставіць у роўніцы строга акадэмічнай безь якіх-небудзь алюзіяў ці меркаваньняў палітычных.

Аднак гэтая акадэмічнасьць ані ня ўсьцерагла Грынблята перад палітычнымі зьвінавачаньнямі з боку партыйных дзейнікаў. У чэрвенскім нумары „Коммуниста Белоруссии" на працу Грынблята зьявілася рэцэнзія Т. Гордышавай, у якой, між іншым, чытаем: „У кнізе спатыкаюцца істотныя недахопы. Гаворачы пра ўтварэньне этнічнай тэрыторыі беларускай народнасьці, аўтар не дазолі дакладна вызначае ейныя межы. У трэйцім разьдзеле ён даволі чыста без асаблівай неабходнасьці цытуе паасобных дасьледнікаў, якія цьвердзяць пра лішне шырокае быццам расьсяленьне Беларусаў". З усяго гэтага рэцэнзэнтка робіць ужо чыста практычна-палітычную выснову: „Аб'ектывісцкі падыход аўтара да паказу этнаграфічных межаў Беларусаў можа выклікаць у чытачоў няправільнае разуменьне гэтага пытаньня".

Але-ж Грынблят не зрабіў ніякага адкрыцьця. Ён адно паўтарыў вынікі навуковых дасьледваньняў ня толькі беларускіх, але й расейскіх, ды галоўна расейскіх моваведаў, як дарэвалюцыйных, гэтак і сучасных савецкіх. Вазьмем перш-наперш „Этнаграфічную карту беларускага племені", укладзеную ў 1903 годзе заснавальнікам беларускае моваведы, акадэмікам Я. Карскім, а перадрукаваную ў „Дыялекталягічным атлясе беларускае мовы" выданьня Акадэміі навукаў БССР у 1963 годзе. Беларускі моўны прастор у сваёй паўночнай і ўсходняй частцы, паказаны на гэтай карце, поўнасьцяй пакрываецца з размежаваньнем беларускай мовы ў працы Грынблята, а калі ўзяць увагу на пераходныя гаворкі ад беларускіх да расейскіх і наадварот, дык значна сягае далей на поўнач і ўсход.

У 1914 годзе была выдадзеная „Дыялекталягічная карта расейскай мовы ў Эўропе", апрацаваная Маскоўскай дыялекталягічнай камісіяй у складзе найвыдатнейшых расейскіх моваведаў. Беларускі моўны прастор і на гэтай карце поўнасьцяй абыймае паўночныя і ўсходнія тэрыторыі, паказаныя Грынблятам, як беларускія.

А вось перад намі выдадзеная ўжо ў 1954 годзе ў Маскве навуковая праца прафэсара П. Кузьняцова „Русская дйялектология", на загалоўнай бачыне якой пададзена, што яна зацьверджаная Міністэрствам асьветы РСФСР у якасьці падручніка для настаўніцкіх інстытутаў. На прыкладзенай да гэтае працы дыялекталягічнай карце ўсе пералічаньня Грынблятам беларускія тэрыторыі вонках сяньняшняй БССР, паказаныя, як моўна беларускія. Дык якое-ж „можа выклікаць у чытачоў няправільнае разуменьне гэтага пытаньня" паказ этнаграфічных межаў Беларусі ў Грынблятавай працы, перад якім перасьцерагае ягоная рэцэнзэнтка Т. Гордышава?

Гэта, між іншым, паказвае, што калі ў цэнтры СССР, у Маскве, яшчэ да некаторай ступені талеруецца навуковая праўда ў дачыненьні да некаторых пытаньняў нацыянальных акраінаў, дык у самых гэтых акраінах штосьці падобнае разглядаецца ўжо, як палітычна шкоднае. А ўсё гэта, узятае разам, — гэта толькі адзін з цэлага мноства прыкладаў, якой цярністай дарогай змушанае йсьці ў Беларусі разьвіцьцё навукі пра Беларусь.

**Ст. Станкевіч**

# 15 ГОД ПАРАХВІІ БАПЦ У ТАРОНТА

Час пасьля Другой сусьветнай вайны паставіў беларускіх выгнанцаў на цяжкае выпрабаваньне. Дзе не павярнуцца, дык на нацыянальным адрэзку трэба было, як кажуць, дзярно араць. Усюды былі мы няведамым народам. Калі скажаш — я Беларус, дык глядзелі на цябе, як на дзіва.

Хоць шмат Беларусаў прыехала ў Канаду, але толькі адзінкі ўзяліся за нацыянальна-грамадзкую працу. 28 лістапада 1948 году на сходзе Беларусаў у Таронта была выбраная часовая Галоўная Управа Згуртаваньня Беларусаў Канады. А 28 травеня 1949 году адбыўся першы Агульны Зьезд ЗБК.

ЗБК, як нацыянальна-грамадзкая арганізацыя, не магло запоўніць усіх прагалінаў у жыцьці Беларусаў Канады. У нядзелі ці вялікія сьвяты праваслаўныя Беларусы ішлі ў цэрквы: хто ў украінскую, хто ў расейскую, а хто ў грэцкую. Пякучым і першым на парадку дня пытаньнем стала справа арганізацыі свайго рэлігійнага жыцьця — сваёй парахвіі.

### ПЕРШЫЯ СПРОБЫ

Цяжка ўстанавіць дакладную дату выбару часовае Парахвіяльнае Рады й дзень першае Багаслужбы ў Таронта. „Беларускі Эмігрант" за 23 красавіка 1950 г. успамінае пра першы Малебен, які быў адслужаны 26 сакавіка гэнага-ж году. Там-жа згадваецца: „У Таронта арганізавалася першая ў Канадзе Парахвія БАПЦ. Настаяцелем царквы (парахвіі — Г.) зьяўляецца ведамы беларускі сьвятар а. Мігай". Далей чытаем: „У часовую Управу (Парахвіяльную Раду — Г.) Беларускай Парахвіі ў Таронта былі выбраныя сп. сп. Грыцук, М. Ганько й К. Станюш, . ." Айцец М. Мігай у прыватным лісьце піша: „Першую бел. правас. Царкву (Парахвію — Г.) ў Таронта зарганізаваў пратаярэй М. Мігай у 1950 г. у маі месяцы". Высновы могуць быць гэткія: На пачатку красавіка 1950 г. на арганізацыйным сходзе была выбраная часовая Управа, а на Вялікдзень 9 красавіка была адслужаная першая Сьв. Літургія. А сталыя Багаслужбы пачаліся адбывацца месяц пазьней, у травені.

Парахвія праіснавала нядоўга, бо толькі да лістапада 1950 г. Калі парахвіяне пачалі націскаць на а. Мігая, каб ён уступіў у юрысдыкцыю БАПЦ, ён адмовіўся й выехаў у Вініпэг, Манітоба, дзе й абняў расейскую парахвію. Айцец Мігай піша гэтак: „Праіснавала царква (Парахвія — Г.) да лістапада 1950 г. ды зачынілася, грамадзтва бел. не падтрымала". Фактам ёсьць тое, што ані першае, ані другое ня было прычынаю закрыцьця Парахвіі. Звычайна перад а. Мігаем адкрылася новая пэрспэктыва заработку й таму ён выехаў.

Гэтак закончыліся першыя спробы арганізацыі беларускае Парахвіі БАПЦ у Таронта.

### НАСТУПНЫЯ СПРОБЫ

У міжчасе грамадзкае жыцьцё пайшло сваёй дарогай. Сп. С. Хмара дзеля асабістых прычынаў пачаў сьціроўваць сваю дэмагогію супраць іншых сяброў, а пасьля выкарыстаў спрыяльны мамэнт ды зарганізаваў новую грамадзкую, рывалізуючую із ЗБК, арганізацыю БНА. Да гэнага часу сп. Хмара поўнасьцяй падтрымліваў БНР і быў ейным радным. Але пасьля таго, як Рада БНР выключыла яго зь ліку радных дэструкцыйную работу, ён пачаў тварыць сваю арганізацыю й выдаваць сваю газэту „Беларускі Голас", падобную сваім паклёпніцкім характарам да „Голасу Радзімы". Сп. Хмара брудам у сваёй газэціне навет выперадзіў камуністых. Як кажуць, якая крыніца, гэткая й вада зь яе цячэ. Як сп. Хмара адчыніў свае вусны, дык зь іх і пацяклі памыі на ўсё, што было й ёсьць беларускае. Наколькі ў яго багаты запас памыяў, відаць із таго, што хапіла іх ня толькі ўсім з БНР і БАПЦ, але й для БЦР, на якую спачатку сам апраўся. Нездарма газэтка „Беларускі Голас" у беларускім грамадзтве дастала мянушку „Беларуская памыйніца".

Прыблізна пасьля паўтары году вярнуўся ў Таронта а. Мігай. Ён узноў пачаў прабаваць арганізаваць парахвіі, але гэтым разам абапёрся ўжо на сп. С. Хмару. Айцец Мігай піша: „У 1951 г. стараньнем бел. пісьменьніка сп. Хмары бел. праваслаўная царква (Парахвія — Г.) была нанава заложана . . ." Здаецца, а. Мігай памыліўся на адзін год, бо ўсё паказвае на тое, што другі раз Парахвія заіснавала на пачатку 1952 г.

Доля гэтае Парахвіі была згары вызначаная. Калі 11 травеня 1952 г. у царкоўнай залі адбыўся агульны сход вернікаў, дык на парадку дня было пастаўленае пытаньне юрысдыкцыі Парахвіі. Бальшыня прысутных на сходзе выказалася за БАПЦ, а супраць было толькі чатырох. Сп. Хмара й а. Мігай ведалі, што другога беларускага сьвятара няма, і выкарысталі гэтую акалічнасьць. Ультыматум а. Мігая, што пакіне Парахвію, падзейнічаў на людзей. Пасьля пад кіраўніцтвам С. Хмары, 21 чырвеня 1952 г., у часе арганізацыйнага сходу БНА, яны выбралі новую Парахвіяльную Раду із сваіх людзей, ці, як яны назвалі яе, „Царкоўны Камітэт". Гэткім парадкам сп. С. Хмара й а. Мігай падпарадкавалі беларускую Парахвію, пад назовам Сьв. Еўфрасіньні, грэцкай юрысдыкцыі. Дык і другая спроба зарганізаваць беларускую Парахвію БАПЦ у Таронта не ўдалася.

### 1954 ГОД

У канцы красавіка 1954 году канчае сваю навуку ў украінскай Духоўнай Акадэміі сп. Міхась Мацукевіч. На просьбу Уладыкі Васіля, Архіяпіскапа БАПЦ, дзекан Акадэміі Мітрапаліт Іларыён рукапалажыў сп. Мацукевіча на дыякана ў Томіну Нядзелю 2 травеня, а ў чацьвер на дзень Сьв. Юр'я 6 травеня 1954 г. на сьвятара.

З Таронта выслалі былі 150 даляраў а. М. Мацукевічу, каб ён купіў сабе ўсё патрэбнае для службаў. Айцец М. Мацукевіч пры дапамозе сп. Мікалая Сільвановіча назьбіраў сярод Беларусаў Вініпэгу яшчэ 65 даляраў на гэтую мэту. З Таронта пісалі а. Мацукевічу, каб ён як найхутчэй пераяжджаў да іх ды памог ім зарганізаваць Парахвію. Але а. Мацукевіч заставаўся яшчэ нейкі час у Вініпэгу, каб зарабіць сабе грошай на дарогу. — Шчасьліва здарылася, — як ён кажа, — Украінцы пабачылі маю фінансавую цяжкасьць і прыйшлі мне з дапамогаю. Яны пасылалі мяне служыць у свае парахвіі й за кажную Службу плацілі па 25 даляраў.

17 чырвеня а. Міхась Мацукевіч прыехаў у Таронта. А тымчасам Беларусы ў Таронта не сядзелі злажыўшы рукі. Трэба было знайсьці месца для Багаслужбаў. У гэтым-жа часе Уладыка Васіль сваёй граматай з дня 8 жніўня 1954 г. назначыў а. М. Мацукевіча настаяцелем Парахвіі ў Таронта.

ЗБК насілася з думкаю набыцьця свайго ўласнага будынку праз даўжэйшы час. Але толькі вясной 1954 году ўзяліся за рэалізацыю гэтае думкі. Дом пры 1000 Дандас вуліцы быў куплены 2 жніўня 1954 г.

Першая Сьв. Літургія была адслужаная ў сваім Беларускім Доме **ў нядзелю 2 кастрычніка 1954 году.** Дата гэтая гістарычная для нашае Царквы ў Канадзе, бо з гэтага дня пачала існаваць Парахвія БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта.

24 кастрычніка а. Мацукевіч склікаў першы сход вернікаў, каб выбраць кіраўніцтва Парахвіі. На сходзе разглядаліся дзьве справы: выбары Парахвіяльнае Рады й справа парахвіяльных складак.

Першая Парахвіяльная Рада Парахвіі БАПЦ у Таронта была выбраная ў наступным складзе: сп. Т. Курбат — старшыня, сп. Я. Грэцкі — сакратар, сп. М. Ганько — скарбнік і сп-ня Раіса Жук-Грышкевіч — прадстаўніца ад жанчынаў.

### АФІЦЫЙНАЕ АДЧЫНЕНЬНЕ

Афіцыйнае адчыненьне Парахвіі й высьвячэньне дому адбылося зь вялікім размахам. Гэткай урачыстасьці ды з гэткай багатай праграмай у Беларусаў у Таронта яшчэ ня было. Упяршыню да нас, як і наагул у Канаду, прыехаў беларускі Архірэй БАПЦ Япіскап Васіль зь Нью Ёрку, а з Кліўленду сьпевакі на чале з праф. Міколам Куліковічам.

Роўна а 3-яй гадз. папаўдні ў суботу 20 лістапада Уладыка Васіль у асысьце а. Мікалая адслужыў Малебен і высьвяціў капліцу й дом. На другі дзень у нядзелю на дзень Сьв. Архангела Архістраціга Міхаіла ізноў была паўнюсенькая царква-капліца, служылася Архірэйская Служба. Сьпяваў хор з Кліўленду, якім кіраваў праф. М. Куліковіч.

### ДРУГІ БУДЫНАК

Як ня цешыліся Беларусы сваім уласным кутком пры 1000 Дандас вуліцы, хутка, аднак, аказалася, што ён на нашыя арганізацыйныя патрэбы быў за малы. Справа купліці будовы цэрквы была нагэтулькі дасьпелай, што Парахвія Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта на сваім гадавым сходзе 10 сакавіка 1957 г. прыняла пастанову стварыць Фонд Цэрквы. Па нейкім часе знайшлі будынак, што адпавядаў грамадзкім патрэбам, а самае галоўнае — фінансавым магчымасьцям. Дом быў куплены 28 жніўня 1959 году. У нядзелю 30 жніўня 1959 г. адбылася першая Багаслужба ў новым будынку пры 524 Клярэнс эвэню.

Роўна праз пяць гадоў і адзін дзень пасьля высьвячэньня першага дому адбылася другая ўрачыстасьць адчыненьня Беларускага Рэлігійнага й Грамадзкага Цэнтру пры 524 Клярэнс эвэню ў Таронта. Урачыстасьць высьвячэньня новага будынку выканаў Архіяпіскап Васіль зь Нью Ёрку 22 лістапада 1959 году. І гэтым разам былі запрошаныя кліўлендцы, а таксама прадстаўнікі мясцовых уладаў.

### ЗА ПЯТНАЦЦАЦЬ ГАДОЎ

Калі мы ўспомнім, што мы рабілі 15 год таму, дык здаецца быццам было гэта ўчора. Аднак, паўтары дзесяткі гадоў даволі даўгі час. Не адна зморшчына зьявілася на нашым твары й не адзін з нас пасівеў за гэты час.

На самым пачатку арганізаваньня Парахвіі нічога ня было. Ня было шмат народу, але затое былі людзі добрае волі. Іхным жаданьнем і заданьнем было мець сваю Царкву.

Праца на рэлігійнай ніве памаленьку пачала пашырацца й паза Таронтам. Айцец М. Мацукевіч, не зважаючы на тое, што фізычна працаваў сабе на хлеб, не шкадаваў ані часу, ані высілкаў, каб заўсёды быць там, дзе яго патрабавалі. Ён пачаў выяжджаць і ў іншыя месцы правінцыі Онтарыё із службамі. На запросіны Парахвіяльнае Рады й настаяцеля траха кажнага году наведваў нашую Парахвію Архіяпіскап Васіль і гэтым узьвялічаў нашыя ўрачыстасьці.

20 і 21 сьнежня 1958 году наведаў нашую Парахвію Мітрапаліт Багдан з мэтаю рукапалажыць свайго кандыдата Юр'я Ягодзкага ў сан сьвятара. 20 сьнежня Уладыка Багдан у асысьце а. Міхася ў часе Сьв. Літургіі рукапалажыў Юр'я ў сан дыякана, а ў нядзелю 21 сьнежня — у сан сьвятара. Сьв. пмаяці Уладыка Багдан належаў да юрысдыкцыі Канстантынапольскага Патрыярха. Для яго было ведама пра існаваньне беларускае Парахвіі Сьв. Еўфрасіньні грэцкае Царквы. Але яму было мілым і прыемным скарыстаць з услугаў нашае Парахвіі.

На працягу 15 гадоў існаваньня Парахвіі было даволі ўздымаў і паслабленьняў. Само паслабленьне пачалося прыблізна ў палазіне 1957 году, а найбольшым было яно ў 1960-62 гг.

Парахвіяльная Рада, выбраная із зусім новых людзей у 1963 г., пачала праяўляць большую актыўнасьць ды больш цікавілася Парахвіяй. З малымі пэрсанальнымі зьменамі склад гэтае Парахвіяльнае Рады перавыбіраўся да апошняга часу. Ад пачатку выбару гэтае, трэба сказаць, дзейнае Парахвіяльнае Рады шмат было зроблена як унутры, гэтак і звонку будынку. Быў прыведзены гэты будынак да належнага выгляду.

Калі будынак Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру сёлета ўжо сплачаны, а Парахвія ня мае ніякага доўгу, дык заслуга ў гэтым поўнасьцяй цяперашняй Парахвіяльнай Рады й сяброў, што працай і ахвярамі памагалі ёй.

Хто мог-бы сказаць пятнаццаць год таму, калі мы арганізавалі Парахвію літаральна з голымі рукамі, што за гэты час мы ўзбагацімся будынкам, фармай „Слуцак", заляй і ўсім патрэбным для царквы.

Усе Беларусы ў Канадзе: Вініпэгу, Садбуры, Лёндану, Гамільтону, Брандфорду, Стратфорду, Гвэлфу, Кічэнэру, Ашавы, Кобургу, Белевілу, Монтрэалю, Бэры, Ангусу, Алістону, Таронта й ваколіцы, усе тыя, што працавалі для Парахвіі, і тыя, што шчодра давалі ахвяры, хай у часе пятнаццацігадовага Юбілею радуюцца! Кажны мае пацеху з вынікаў свае працы!

**Грыбок**

### ШКОЛЬНІЦТВА Ў ВІЛЬНІ

Паводля інфармацыі, апублікаванае ў польскім часапісе „Культура" (Парыж, 1969, № 7-8, арт. Э. Жагеля „Сучасная Лятува"), у Вільні ў 1966-67 годзе на 400 тыс. жыхароў было 4 тыс. пачатковых школаў з паўміліёнам вучняў. З гэтага ліку 22 тыс. дзяцей хадзілі да 200 школаў з польскаю моваю навучаньня. Апрача гэтага працавала 20 школаў двумоўных польска-лятувіскіх, 34 польска-расейскіх і 26 польска-расейска-лятувіскіх.

За пэрыяд 1959-1967 гадоў, піша Жагель, працэнт вучняў, што вучыліся папольску, зьменшыўся з 6% да 4%, а тых, што вучыліся парасейску, узрос з 11% да 13%. Палітоўску вучыліся 81% дзяцей. Паводля Жагеля, гэта найвышэйшы працэнт вучняў, што вучыліся ў сваёй роднай, а не расейскай мове, сярод усіх нерасейскіх рэспублікаў СССР.

# АРЦЫБІСКУП АДВАРД РОП

**(1851 — 1939)**

У беларускіх савецкіх газэтах і часапісах апошнім часам узьняўся цэлы паход грамадзкае думкі на абарону помнікаў гісторыі й культуры. Сярод каштоўнасьцяў мінуўшчыны згадваецца цімала й цэркваў з захаванымі ў іх, не панішчанымі йшчэ дарэшты, сьлядамі мастацкіх і духовых багацьцяў. Роля рэлігіі ў гісторыі нашага народу вялікая й бясспрэчная. Летась прыкладам, выйшаў з друку першы том „Гісторыі беларускае дакастрычніцкае літаратуры", што абыймае пэрыяд ад старадаўных часоў да канца XVIII стагодзьдзя. Паказальна, што ў кнізе першыя тры ілюстрацыі — будынкі цэркваў.

Цікава, аднак, што калі ў беларускай гістарыяграфіі і ў савецкім друку наагул пра царкоўныя будынкі пішацца ды іх бярэцца ў вабарону, дык пра людзей царквы, пра рэлігійных дзеячоў, што ў шмат якіх выпадках былі адначасна дзеячамі культуры й палітыкі, ня згадваецца блізу зусім. Сярод гэткіх, казаў той, „запасьнікоў" нашае мінуўшчыны — калярытная фігура каталіцкага біскупа барона Адварда Ропа, рэлігійнага й палітычнага дзеяча пачатку дваццатага стагодзьдзя.

У працах савецкіх гісторыкаў імя Адварда Ропа блізу ніколі ня згадваецца. Рэдчас адно можна наткнуцца на мімабежную характарыстыку яго, як вось, прыкладам у працы беларускага савецкага дасьледніка К. Шабуні 1962 году „Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белорусии в революции 1905-1907 гг..." Для Шабуні біскуп Роп — „кіраўнік контррэвалюцыйнае езуіцкае гэтак званае каталіцка-канстытуцыйнае партыі" — і больш ніхто. Кім-жа біскуп Роп быў у запраўднасьці й якое меў дачыненьне да гісторыі Беларусі?

З паходжаньня Немец (поўнае прозьвішча фон дэр Роп), зь перакананьня — Паляк, нарадзіўся ў Лацьвіі ў 1851 годзе, Адвар Роп жыў і дзеіў пэўны час на Беларусі. У Сьвянцянскім павеце меў свой маёнтак.

На Беларусь барон Адвард Роп прыехаў у 1903 годзе, бышы тады ўжо 52-гадовым біскупам. У Вільні гэным часам якраз пачынала разгортаць сваю дзейнасьць Беларуская Сацыялістычная Грамада. Тут біскуп Роп і пазнаёміўся ўпяршыню зь беларускім адраджэнскім рухам ды неўзабаве выявіў да яго сваю сымпатыю і спрыяньне.

У 1905 годзе, калі рэвалюцыя змусіла царскае самаўладзтва пашырыць рэлігійную й грамадзкую свабоду ды пачалі паўставаць розныя палітычныя партыі, біскуп Роп заснаваў Канстытуцыйна - каталіцкую партыю. Партыя гэтая мела даволі паважны ўплыў і сярод беларускага жыхарства. Асабліва актыўна дзеіла яна на пачатку 1906 году, калі адбываліся выбары дэпутатаў у першую Дзяржаўную Думу. Пецярбурскі часапіс „Окраины России", ў сакавіку 1906 году пісаў: „Прапаганда Канстытуцыйна-каталіцкае партыі вядзецца вельмі напорна сярод Беларусаў-каталікоў". „Окраины России", што наагул да біскупа Ропа ставіліся няпрыхільна ды вялі прапаганду супраць яго, гэтак апісвалі асноўныя мэты Ропавае Канстытуцыйна-каталіцкае партыі: „Партыя дамагаецца свабоды саюзаў, сходаў, права на забастоўкі, 8-гадзіннага працоўнага дня, дапамогі з боку дзяржавы для разбудовы рамесьніцкіх ды іншых школаў... забясьпечаньня работнікаў на выпадак калецтва, старасьці й г. д." Канстытуцыйна - каталіцкая партыя біскупа Ропа не абмяжоўвала сяброўства да каталікоў, а была адчыненая для хрысьціянаў наагул і навет для мусульманаў.

У першай Дзяржаўнай Думе, у якой біскуп Роп быў дэпутатам ад Віленскае губэрні, ён гэтак казаў пра сваю партыю: „Я хацеў стварыць палітычную партыю, якая ведала-б запраўдныя патрэбы краю й магла-б разьвівацца на канстытуцыйных пачатках". Ропаву партыю аднак царскі ўрад забараніў. Што да прычынаў забароны, дык паводля заявы біскупа Ропа ў Дзяржаўнай Думе, „проста было сказана, што партыя супраціўіцца намерам ураду ў краі, і затым арганізацыя дазволеная ня будзе".

Як ведама, адным з намераў царскага ўраду ў Паўночна-Заходнім краі, як тады звалі нашую Бацькаўшчыну, была русыфікацыя ў дачыненьні да Беларусаў. Выяўлялася яна найбольш у забароне й адміністрацыйным перасьледзе беларускае мовы й культуры, у розных перашкодах росту беларускае нацыянальнае сьведамасьці, як асновы адраджэньня нацыі й разьвіцьця палітычна-дзяржаўнага руху.

У сваёй працы пад загалоўкам „Беларускі хрысьціянскі рух", што друкавалася працягамі ў 1938 годзе ў беларускім віленскім часапісе „Хрысьціянская Думка", ксёндз Адам Станкевіч пакінуў гэткае сьветчаньне пра прыхільнае стаўленьне біскупа Ропа да беларускага адраджэньня: „У 1905 годзе тагачасны віленскі біскуп Адвард Роп насіўся з думкай выдаць у Вільні народную каталіцкую газэту пабеларуску, але, як чутно было, дарадцы ягоныя (праўдападобна Палякі-вялікадзяржаўнікі — Я. З.) былі гэтаму вельмі праціўныя, ды так і асталося". Пра стаўленьне біскупа Ропа да беларускае мовы пакінулі сьветчаньне пецярбурскія чарнасоценныя „Окраины России". У нумары за 2 ліпеня 1906 году „Окраины России" цытавалі Ропава выказваньне, што мела сьветчыць пра ягоныя „злыя" намеры ў дачыненьні да Паўночна-Заходняга краю. Як выяўляецца, біскуп Роп сказаў быў: „Няхай заміж навязваньня беларускім дзецям вялікарускае мовы ў народнай школе, школьныя ўлады ўвядуць беларускую мову".

12 кастрычніка 1907 году газэта „Наша Ніва" паведаміла, што „іменным царскім указам біскупа Віленскага барона Ропа звольнілі ад біскупства. Яму прыказана выехаць зь Вільні й забаронена жыць у сталічных месцах і ў нашы-м краю".

Выгнаньне біскупа Ропа трывала 10 гадоў. У 1917 годзе Папа Рымскі Бэнэдыкт XV даў Адварду Ропу сан арцыбіскупа й прызначыў яго на становішча мітрапаліта Магілеўскага. У Петраградзе, дзе адбывалася інтранізацыя, папская бульля была прачытаная й пабеларуску, як адлюстраваньне прыхільнасьці новага мітрапаліта да беларускае культуры.

У 1919 годзе арцыбіскуп Роп перабраўся ізноў жыць у Вільню. Вітаючы яго з гэтае нагоды, малады тады беларускі каталіцкі сьвятар Адам Станкевіч пісаў у Віленскім часапісе „Крыніца" ў нумары за 1-га студзеня 1920 году: „Для гэтае паважнае асобы знаходзіцца многа падзякі й шчырага прывітаньня ў сэрцах Беларусаў. Ён першы, ідучы за сваім глыбокім розумам і шчырай, сапраўды апостальскай душой, пазволіў і нат радзіў гаварыць да Беларусаў па касьцёлах казаньні й навукі пабеларуску. Гэтае вялікае, дужа важнае ў вадраджэньні нашага народу зьявішча, здарылася 21 ліпеня 1917 году ў Дзісьне, калі пішучы гэтыя словы, атрымаўшы Мітрапалітава багаславенства да многатысячных хрысьціян - Беларусаў, у дзісьненскім касьцёле гаварыў казаньне ў нашай роднай беларускай мове".

Біскуп Роп быў чалавек ня толькі шчодрае душы, але й глыбокага палітычнага розуму й выразна дэмакратычнага настрою. Відаць гэта перш-наперш з тае сацыяльна-прагрэсыўнае праграмы, якую ён паклаў быў у васнову сваё Канстытуцыйна-каталіцкае партыі. Дэмакратызм ягоны выплываў арганічна зь ягонае хрысьціянскасьці. „Бог, — казаў біскуп Роп у Дзяржаўнай Думе ў травені 1906 году, — ад самага пачатку... даў сьвету канстытуцыю... Канстытуцыя гэта складаецца зь дзесяцёх запаветаў". Дух і сэнс гэтых запаветаў, біскуп Роп пераносіў і ў сфэру сацыяльных дачыненьняў:

„Я стаю за тое, — казаў ён тады-ж у Дзяржаўнай Думе, — што трэба пакінуць работніцкай клясе магчымасьць арганізавацца, што трэба даць ёй магчымасьць знайсьці сілу ў самой сабе, што трэба ахаваць яе гэткім законам, што вызваліў-бы яе ад уціску капіталізму. І я ў ніякім сэнсе не стаю супраць руху да раўнапраўя й да задзіночаньня паасобных клясаў, так-жа сама, як і паасобных нацыянальнасьцяў, каб яны міжсобку маглі стварыць тое, што ім патрэбна дзеля росквіту й дзеля жыцьця. Тое-ж самае думаю я і ў дачыненьні да сялянскае клясы".

У першай Дзяржаўнай Думе, што працавала ў красавіку-ліпені 1906 году, біскуп Роп, як і шмат іншых прадстаўнікоў беларускіх губэрняў, стаяў за аўтаномію для Беларусі. Свае пагляды на гэтую тэму ён выказаў найшырэй на пленарным паседжаньні Думы 26 чэрвеня 1906 году. Сацыяльна - нацыянальны ўціск, які панаваў у Паўночна-Заходнім краі, біскуп Роп тлумачыў тым, што краем кіравалі чужыя прыежджыя людзі. „Як у абрусіцеляў краю, — казаў ён, — у іх зьяўляецца нейкая нянавісьць. У выніку-ж таго, што яны цягам доўгіх год карыстаюцца апекаю ўладаў, якія згубілі ўсякае разуменьне пра маральнасьць. І вось гэтыя ніжэйшыя нашы абрусіцелі, 'истинно-русские люди', гатовыя строіць розныя штукі, а вышэйшыя, ня ведаючы краю, змушаныя кіравацца дырэктывамі гэтых ніжэйшых чыноў... Для нас, каб пагромаў ня было, каб край мог разьвівацца нармальна й добра, каб існаваў мір між усімі клясамі, між усімі народнасьцямі, што жывуць у нашы краі, трэба, каб людзі мясцовыя там на мясцох панавалі".

Арцыбіскуп Адвард Роп застаецца нявывучанаю ў нашай гісторыяграфіі постацяй, тымчасам, як шматбаковая рэлігійная, культурная й палітычная дзейнасьць гэтага шматграннага чалавека заслугоўвае на ўсю ўвагу й далейшыя пошукі матар'ялаў пра яго.

**Я. Запруднік**

## БЕЛАРУСЫ СЫДНЭЮ АКТЫВІЗУЮЦЦА

Сярод Беларусаў аўстралійскага гораду Сыднэй апошнім часам зазначылася значнае грамадзкае ажыўленьне. 18 травеня сёлета адбыўся сход мясцовых Беларусаў, мэтаю якога было канчатковае разьвязаньне справы набыцьця свайго грамадзкага дому.

Сабралася 47 чалавек, сход адчыніў старшыня часовага Камітэту сп. М. Антух. За старшыню сходу быў выбраны М. Лужынскі, за сакратара — К. Хаванскі. На парадку дня было адно пытаньне — справа набыцьця свайго грамадзкага дому. Прысутныя аднагодна выказаліся за неабходнасьцяй як найхутчэй прыдбаць свой грамадзкі дом, а сп. Я. Макарэвіч навет напісаў прынагодны верш на гэтую тэму, за прадэклямаваньне якога быў узнагароджаны доўгімі воплескамі.

На старшыню заснаванага на сходзе Камітэту быў выбраны М. Антух, на сябраў: сп-ня А. Каранеўская й сп. сп. А. Чурыла, К. Хаванскі, М. Шкода, М. Ціхан і М. Лужынскі, а д-р Я. Малецкі й Я. Макарэвіч — намесьнікамі ў Камітэт. Дыскутаваліся два праекты новае арганізацыі: акцыйная супалка ці рэгістраваны грамадзкі клюб.

Сход перадаў Камітэту разгляд усіх легальных аспэктаў новае арганізацыі ды ейнае формы, а так-жа даручыў яму падрыхтаваць праект статуту да наступнага агульнага сходу. Прысутныя зложылі 155 даляраў на бягучыя выдаткі, а 19 з прысутных пакінулі забавязаньні даць аднаразовую ахвяру на агульную суму 3.000 даляраў. На сходзе адчуваўся вялікі энтузіязм да нацыянальнае справы. Хацелася верыць, што людзі з абедзьвюх палітычных групаў наапошку знайшлі супольную мову. Дай-жа Божа!

25 травеня нававыбраны Камітэт дзеля пабудовы грамадзкага дому адбыў сваё першае паседжаньне. Былі разьдзеленыя функцыі Камітэту: М. Антух — старшыня, А. Чурыла — заступнік старшыні, М. Лужынскі — сакратар, К. Хаванскі — скарбнік, А. Каранеўская — старшыня Жаноцкае Сэкцыі, М. Шкода й М. Ціхан — сябры ўправы. Было пастаноўлена назваць арганізацыю — Беларускі Культурна-Грамадзкі Клюб (Byelorussian Social & Cultural Club). Былі на паседжаньні створаныя дзьве Камісіі: дзеля апрацаваньня статуту арганізацыі, дзеля ладжаньня культурна-сяброўскіх імпрэзаў.

**М. Л.**

## БЕЛАРУСКІ БАЛЬ У СЫДНЭІ

Стараньнямі нашых жанчынаў 2 жніўня сёлета быў зладжаны Беларускі баль у залі Украінскага Народнага Дому ў Лідкомб. У вельмі прыгожа прыбранай залі зышлося шмат Беларусаў Сыднэю й запрошаных іншанацыянальных гасьцей. Грала добрая аркестра, быў вельмі добры буфэт, выдатна зарганізаваная бяспройгрышная лятарэя. У перапынку між танцамі весяліў прысутных ігрой на акардыёне 12-цігадовы Янка Варановіч вязанкай папулярных мэлёдыяў.

Як прыемна было бачыць поўную залю людзей, сярод якіх і суродзічаў, што ня бывалі на ніякіх зборках блізу 20 год. У вясёлай сяброўскай атмасфэры хутка прайшоў час. Баль даў 470 дал. прыбытку, што нашыя жанчыны перадалі на фонд Беларускага Культурна-Грамадзкага Клюбу. Усім, хто спрычыніўся да ўдачы першага беларускага балю ў Сыднэі, належыцца найшчырэйшая падзяка.

**М. Л.**

**Чытайце, выпісвайце, пашырайце часапіс Беларусаў Паўночнае Амэрыкі Выдавецтва „Беларуса"**

# ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ЭЎРОПА

**(Заканчэньне з папярэдняга нумару)**

Назаўтрае, а дзевятай раніцы — праз Брусэль на Остэндэ. У Остэндэ каля 2-ой папаўдні. Адгэтуль каналам у Ангельшчыну. Остэндзкі вагзал над каналам. Гойдаюцца на якарах два параплавікі. Каторы зь іх павязе?

А тут натоўп. Рознага веку, колеру, мовы. Да гэтага — нядзеля. Шмат брытыйцаў, пасьля „вікэнду" або вакацыяў, вяртаюцца дахаты. Пхаемся паволі за ўсімі да кантрольнага ўваходу. Паказваем адно пашпарты, мытная „споведзь" наперадзе, у Ангельшчыне. Вомірг вока абодвы параплавікі запоўніліся пасажырамі. Адразу-ж вырасла новая радоўка пры ваконцы „эксчэндж" (выменная каса). Людзі пазбываюцца франкаў, марак, гульдэнаў і даляраў, узамен на фунты.

Фунты... Ох, гэтая ангельская грашовая сыстэма! Каб-жа адно фунты, то такой бяды. Тут табе яшчэ шылінгі, а іх толькі 20 штук на фунт лезе! Шылінгі-ж ёсьць старыя й новыя, пераходныя на дзесятковую сыстэму, што мае, дзякуй Богу, хутка замяніць дасюлешнюю. Здараюцца яшчэ „краўны" ды „гафкраўны", і трэба ведаць іхную вартасьць. Наапошку шылінг той распадаецца яшчэ на цэлы тузін „пэнаў", а пэн, памерам удвая большы за шылінг, варты ўсяго адзін цэнт ці капейку! Далічыся тады, неспрактыкаваны чалавеча, калі табе давядзецца хутка плаціць, а адзаду напіраюць іншыя! Адзіны ратунак гэта згрэбці ў жменю ўсё разам ды вываліць на ляду прадаўцу — грабі колькі табе трэба! Давялося й зрабіць гэтак, калі смага прысьпічыла й захацелася халоднага піва.

Тры з паловай гадзіны мітусьні нашага „морскага" падарожжа праляцелі хутка. Канал, на шчасьце, быў даволі спакойны і гушкала ня вельмі, а гэта бывае рэдка. У Дуўры Ангельшчына сустрэла нас даволі сёрбістым, пералётным дожджыкам. Адсюль у Лёндан экспрэс імчаў нас, як бегавы жарабок. Аніразу не затрымаўся. Мільгалі толькі паабапал чыгункі гарадкі, пасёлкі з характэрнымі, ангельскімі-ж, котэджамі, што расплываліся ў буйнай зеляніве навакольных дрэваў і кустоў.

Праз паўтары гадзіны Лёндан, вагзал Вікторыя. Архітэктура Вікторыі — ніякая, а Лёндану? Сказаць нешта акрэсьленае рана і... позна. Ужо каля дзевятай вечара, зьмяркаецца, а мы ня маем начлегу. Гатэль шукаць трэба. Кідаецца адразу ў вочы... не, ня тое — пішчом лезе ў вушы несамавіта грукат вулічнага транспарту. Прывагзальныя вуліцы запруджаны безьліччу самаходаў, таксовак, аўтабусаў звычайных ды двухпавярховых.

Кідаецца ў вочы запраўды, дык гэта надзвычайная ўважлівасьць да чалавека й ветлівасьць Лёнданцаў. Калі на аднэй з вуліцаў, распасьцёршы плян места, мы зацята спрачаліся, у які бок трэба, каб прасьцей трапіць у наш гатэль, нейкі салідны ягамосьць вельмі далікатна спыніў нашыя дэбаты. Ён гэтак быў праняўся нашай „бядой", быццам асабістай трагэдыяй. Мала што дакладна расказаў, а падвёў да бліжэйшага скрыжаваньня вуліц, паказаў у які бок, а на разьвітаньне, яшчэ падзякаваў. Аж сорамна зрабілася. Выглядала, што ня ён, а мы яму зрабілі вялікую прыемнасьць! Ізноў-жа ў будынку Парляманту. Выходзячы з галерыі гледачоў у залі пасяджэньняў Гасподы Прадстаўнікоў (можна дастаць бясплатны білет, стаўшы ў радоўку), калі мы ў нерашучасьці затрымаліся перад уваходам да Гасподы Лёрдаў — зайсьці, ці не, то нейкі джэнтлемэн, што моцна сьпяшаўся (мо' на пасяджэньне), раптоўна затрымаўся, расчыніў перад намі дзьверы. Ягонае з дастаенствам схіленьне сівае галавы ды адпаведны гэст рукі выразна, бяз словаў, казалі маёй жонцы: Калі ласка, лэды! Не асьмелюся перад Вамі!

Сам Лёндан — вялізарны, раськіданы. Гэта ня горад у штодзённым нашым уяўленьні. Гэта — канглямэрат, калекцыя паасобных гарадоў ды прыгарадаў із сваймі характэрнымі асаблівасьцямі. Паркі й сквэры — цудоўныя. У архітэктурным ды гістарычным дачыненьні вырозьніваецца Вэстмінстэрскае абацтва. Тут карануюцца брытанскія манархі, а ў адмысловай літаратурнай капліцы, у падлозе пліты зь іменамі выдатнейшых пісьменьнікаў ды паэтаў каралеўства. Саркафагі ня толькі каралёў, а й выдатнейшых дзяржаўных мужоў.

Будынак Парляманту, зь ягонай вежай Вікторыі ды славутым гадзіньнікам „Біг-Бэн", вялікапышны. Вялікую цікавасьць выклікае старавечная цытадэля Лёндан Таўэр, пабудаваная яшчэ за Вільгэльма Заваёўніка. Тут некалі вязьнілі дзяржаўных праступнікаў, а месца на двары, дзе ім сьціналі галовы, абгароджана, і гіды цяпер апавядаюць, як гэта „прыемнасьць" адбывалася. Цяпер у будынках Таўэр музэі ды ў падзямельлі перахоўваюцца каралеўскія каштоўнасьці — кароны, булавы, чашы, мячы й пад. Надзвычай багаты вайсковы музэй, дзе соткі ўсялякіх экспанатаў узбраеньня, каскі, шаблі, кінжалы, пікі, галябарды, магучі, рыцарская зброя, гарматы, а навет стальная зброя на сланя! Аглядаць усе дэталі мастацкага ўпрыгожаньня розных стрэльбаў, пісталетаў і пад. можна днямі, не гадзінамі. Стража Таўэру й да сягоньня апранутая ў каляровую вопратку XVII ст., што выклікае вялікую сэнсацыю ў дзяцей перад уваходам ды ў турыстычных фатаграфаў, перад якімі стражнікі ахвотна пазуюць.

Яшчэ іншая сэнсацыя Лёндану — гэта зьмена каралеўскай гвардыі, коннай і пешаходнай. Калі добрае надвор'е, то паглядзець на гэту каляровую містэрыю, штодзень перад брамай Букінгамскага каралеўскага палацу зьбіраюцца сотні людзей.

Выдатнае месца ў Лёндане займае Брытанскі музэй, музэй сьветавай славы. Чаго толькі там няма! Перадусім — кнігасховішча, дзе вялізарныя фаліянты на паліцах, стэндах пад шклом, розныя ўзоры бібліяў, рэдкія, унікальныя рукапісы розных часоў, народаў і ў розных мовах сьвету. А што варты калекцыі мэдаляў, манэтаў, асырыйскіх, грэцкіх ды рымскіх старажытнасьцяў! Вялікае зацікаўленьне выклікала ў нас адна арыгінальная калекцыя паштовых марак у філятэлістычным аддзеле. Гэта была калекцыя пэрыяду II-ой сьветавай вайны, ды не адно марак, а й паштовак ды лістоў із савецкіх канцлягераў, гітлераўскіх лягераў сьмерці, з Афрыкі, Ірану, зь лягераў працы, ДП-лягераў ад былых польскіх грамадзянаў сваім родным.

Нельга прамінуць і беларускія асаблівасьці Лёндану, а яны ёсьць. Тут шмат чаго свайго, роднага. Тут паўстала ЗБВБ, старэйшае пасьляваеннае нацыянальнае задзіночаньне ў вольным сьвеце. Тут купілі былі за цяжка заробленыя пэнні першы грамадзкі будынак — Беларускі Дом. Тут жменька беларускіх айцоў Мар'янаў, апрача рэлігійнай місіі, разгарнула шырокую нацыянальную працу, арганізуючы лекцыі, рэфэраты, рэгулярнае выданьне рэлігійна-грамадзкага часапісу „Божым шляхам" ды ўтрымоўваючы беларускую школу-інтэрнат для хлапцоў.

Сядзіба беларускіх айцоў Мар'янаў із школай, або „Мар'ян Гаўс", месьціцца ў даволі прыгожай частцы Лёндану, дзе ані не адчуваецца таго бэдляму вялікага места. Нібы ў правінцыі, а ўсяго пяць часінаў хады ад станцыі надземнае часткі „Андэрграўнд" (мэтро). Тут чысьціня, здаровае паветра, навакол высокія дрэвы, спакойныя, цяністыя вуліцы.

Сустрэў нас на парозе а. Леў Гарошка. Ніколі раней мы яго ня бачылі, а пазналі адразу. Той самы воблік, тая-ж бародка — усё, як на часапісных здымках. Нечаканая візыта, відаць, ня толькі ўзрадавала,

# РАБОТА, ЯКУЮ ТРЭБА ПАДТРЫМАЦЬ

Пры агульнай невялікай грамадзкай актыўнасьці нашае эміграцыі з тым большай увагай, прызнаньнем і ўдзячнасьцяй трэба ставіцца да тых, што, не зважаючы на нішто, да самаахвярнасьці застаюцца дзейнымі й грамадзка карыснымі. А гэткія людзі ў нас ёсьць!

Да гэткіх, між іншымі, належаць і ініцыятары, заснавальнікі й кіраўнікі Беларускага Выдавецка-Мастацкага Клюбу „Пагоня" ў Таронта. Работу Клюбу фактычна вядуць усяго дзьве, заўсёды энтузіястычныя ў кажным грамадзкім пачынаньні асобы — Кастусь Акула — старшыня Клюбу й Антон Маркевіч — ягоны сакратар, які, дарэчы, зьяўляецца й Адміністратарам газэты „Беларус" на Канаду.

Ад часу свайго заснаваньня ў 1967 годзе, Клюб патрапіў выпусьціць значную колькасьць грамафонных кружэлак зь беларускімі народнымі й на словы беларускіх паэтаў песьнямі ў вапрацаваньні нашых кампазытараў і ў выкананьні выдатных нашых сьпевакоў і хораў як на эміграцыі, гэтак і на бацькаўшчыне. Таксама выпушчаныя Клюбам і кружэлкі зь беларускімі танцамі. Апрача гэтага, Клюб выдаў ужо й пару салідных беларускіх кніжак, у тым ліку і ў ангельскай мове аповесьць Кастуся Акулы "Tomorrow is Yesterday". Асаблівай заслугай Клюбу выпушчаныя ім нагрудныя беларускія значкі з Пагоняй, якія сяньня можна бачыць на грудзях нашых суродзічаў у часе розных нацыянальных урачыстасьцяў ува ўсіх краінах расьсяленьня беларускае эміграцыі. А ў плянах і праектах на бліжэйшую й далейшую будучыню Клюб прадбачыць шмат што яшчэ.

Як для дзьвюх асобаў і пры хранічнай матарыяльнай нястачы, дасюлешнія вынікі работы Клюбу ўзапраўды зьдзіўляючыя. Няхай сабе ня ў кажным канкрэтным выпадку й ідэальная, аднак, гэта работа, якую застаецца адно падтрымаць. Падтрымаць ня толькі таму, што яна гэтага заслугоўвае, але й таму яшчэ, каб даць прынамся маральную ўзнагароду — пра матарыяльную не даводзіцца й думаць! — тым, што гэтую работу робяць, ды заахвоціць іншых да падобнае саматужнае работы і ў іншых галінах.

Ёсьць два спосабы падтрыманьня дзейнасьці Клюбу „Пагоня". Адзін зь іх — запісвацца ў лік сяброў Клюбу, даючы аднаразовы сяброўскі ўклад у вышыні 50 даляраў. Другі спосаб — набываць і заахвочваць іншых да набываньня ўсіх бяз вынятку рэчаў і публікацыяў, выпушчаных Клюбам. Даўно пара строга кіравацца кажнаму з нас прынцыпам: купляць бяз вынятку ўсё, што выпускаецца й выдаецца нашымі собскімі сіламі й ахвярнай бескарысьлівай працай, навет і ўсё тое, што таму або іншаму асабіста й непатрэбнае, але набываць іх патое, каб падтрымаць добрую ініцыятыву.

Наагул-жа ўсякая пазытыўная й карысная работа, робленая самаахвярна й бескарысьліва, незалежна ад таго, хто яе робіць, павінна быць усімі намі належна ацэненая, падтрымліваная й маральна ўзнагагоджаная.

Ст. Станкевіч

### РАЗЬВІТАНЬНЕ ІЗЬ СЯБРАМ І СУПРАЦОЎНІКАМ

Дасюлешні кіраўнік Беларускага Клюбу ў Манчэстары (Ангельшчына) сп. М. Віценчык перасяліўся на сталы побыт у Брадфард. Ягоныя сябры й супрацоўнікі з гэтае нагоды наладзілі 4 кастрычніка ў Беларускім Клюбе разьвітальны вечар, на якім было сказана шмат цёплых прамоваў, выказана добрых пажаданьняў, а Управа Клюбу ў довад удзячнасьці за даўгагадовую грамадзкую працу ў Манчэстары паднесла яму ў якасьці памятковага падарунку сярэбраны кубак.

Трэба спадзявацца, што і ў Брадфардзе сп. М. Віценчык разгорне актыўную грамадзкую дзейнасьць, чаго яму шчыра жадаем.

### ПЛЯКАТ ЮНЭСКО ПРА БЕЛАРУСКІХ ШКОЛЬНІКАЎ

Бюлетэнь ЮНЭСКО („Юнэско Фічэрс") (№ 556-557, жнівень 1969г.) паведаміў, што выйшаў з друку насьценны плякат, на якім паказанае „штодзённае жыцьцё школьнікаў Беларусі". Плякаты выдала Сусьветная Канфэрэнцыя Настаўніцкіх Арганізацыяў. Мэта плякату, як піша бюлетэнь, „стымуляваць зацікаўленьне 11-15-гадовых дзяцей жыцьцём і культураю іншых народаў". Плякат складаецца прыблізна зь 15 фатаграфіяў з паясьняльнымі тэкстамі да іх. Яго можна выпісаць, пішучы на наступны адрыс:

WCOTP International Secretariat
1330 Massachussetts Avenue NW
Washington DC 20005

### ПАЧАЛІСЯ ЗАНЯТКІ

У Беларускай Нядзельнай Школе ў Нью-Ёрку (401 Атлянтык Авэню, Бруклін) 28 верасьня пачаліся занядкі. У школе выкладаецца беларуская мова, гісторыя й геаграфія Беларусі ды рэлігія. Школу арганізоўвае штогоду Культурна-Асьветны рэфэрат БАЗА. Ейным дырэктарам ужо другі год — сп. Ант. Шукелайць.

## ПРАДСТАЎНІЦТВЫ „БЕЛАРУСА"

**UNITED STATES:**

1. **Mr. J. Azarka**
154 Emerson Street,
Somerset, N. J.
2. **Mr. Andrey Streczyn**
3407 Mapledale Avenue
Cleveland, Ohio 44109
3. **Byelorussian Association in the State of Illinois**
3006 Logan Blvd.
Chicago, Illinois 60647
4. **Byelorussian-American Ass'n**
4055 Normandy Road
Royal Oak, Mich., 48072

**CANADA.**

1. **A. Markievich**
127 Dovercourt Road
Toronto 3, Ont.

**AUSTRALIA:**

1. **Mr. M. Nikon**
14 Steel Street
Spotswood W. 14, Vic.
2. **Byelorussian Ass'n of N.S.W.**
4 Third Avenue
Canley Vale, N.S.W.

**ENGLAND:**

1. **Mr. A. Laszuk**
97 Moore Park Rd.
London, S.W. 6
2. **Mr. J. Kalbasa**
3 Rowton Thorpe
Greengates
Bradford, Yorks
3. **The Byelorussian Club**
74 Bellott St., Cheetham
Manchester 8

**FRANCE:**

**Mrs. Kasztelan M. Marie**
1, Rue Negrier
Mouvaux 59

**GERMANY:**

**Mr. Aleksander Malawko**
82 Rosenheim/Obb.
Am. Gern 4.

# БУДЫНАК БР-ГЦ У ТАРОНТА СПЛАЧАНЫ

Дзякуючы высілкам Парахвіі БАПЦ у Таронта, ЗБК, ЗЖБК і значнай часткі беларускага грамадзтва ў Канадзе будынак Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру ў Таронта на 524 Санклеранс Ав. выкуплены, моргіч сплачаны. Будынак гэты стаўся нашай — беларускай собскасьцю. У 1959 г. каштаваў ён нам $ 38.000.00, цяпер вартасьць ягоная значна вышэйшая.

Яшчэ год таму назад моргіч на будынак выносіў каля $ 12.000.00, сёлетняй вясной заставалася доўгу каля $ 6.000.00, а пры канцы жніўня было сплачана ўсё да рэшты, дзякуючы ахвярнасьці значнай часткі нашага грамадзтва — людзей добрай волі. Адны далі большыя ці меншыя ахвяры, другія беспрацэнтныя пазыкі на 5 год, трэйція ахвяры й пазыкі. Ахвяраў сабрана $ 4.052.00, пазыкаў $ 3.000.00. Гэту невялікую суму пазыкаў у нашых суродзічаў трэба будзе сплаціць на працягу 5 год. Спадзяёмся, што пакрыюць яе нашы суродзічы, якія з тых ці іншых прычынаў засталіся ззаду ў вахвярнасьці на сплату будынку.

Ніжэй падаём сьпісак ахвярадаўцаў і пазыкадаўцаў.

### АХВЯРЫ Й ПАЗЫКІ НА СПЛАТУ ГІПАТЭКІ БУДЫНКУ БР-ГЦ У ТАРОНТА

| | | Ахвяры | Пазыкі |
|---|---|---|---|
| 1. | К. Брокінг (пасьмертная ахвяра) | $ 500.00 | |
| 2. | А. Жылік | 300.00 | |
| 3. | М. Алексеевіч | 200.00 | |
| 4. | Р. Жук-Грышкевіч | 200.00 | $ 500.00 |
| 5. | Безіменны | 200.00 | |
| 6. | Б. Кірка | 175.00 | 500.00 |
| 7. | З. Б. К. | 150.00 | |
| 8. | В. Прыстаўка | 100.00 | |
| 9. | А. Харавец | 100.00 | 100.00 |
| 10. | Р. Голуб | 100.00 | |
| 11. | Я. Баран і Н. Філяновіч | 100.00 | 400.00 |
| 12. | М. Пракопчык | 100.00 | |
| 13. | С. Мацукевіч | 100.00 | |
| 14. | М. Стэльмашэк | 100.00 | |
| 15. | Т. Ячнік | 100.00 | |
| 16. | К. Каранеўскі | 100.00 | |
| 17. | М. Буцька | 100.00 | |
| 18. | М. Кулеш | 100.00 | |
| 19. | П. Шарафановіч | 100.00 | |
| 20. | Н. Сільвановіч | 100.00 | |
| 21. | З.Б.К. (Аддзел Судбуры) | 100.00 | |
| 22. | З.Б.Ж.К. (жаночая арганізацыя) | 100.00 | |
| 23. | Беларуская Каса Самапомачы | 100.00 | |
| 24. | Я. Матла | 50.00 | 500.00 |
| 25. | Я. Хрэноўскі | 50.00 | |
| 26. | Я. Скурат | 50.00 | |
| 27. | М. Таўпека | 50.00 | |
| 28. | Л. Шпуляр | 50.00 | |
| 29. | В. Телеш | 50.00 | |
| 30. | М. Шуст | 50.00 | |
| 31. | Н. Чорная | 50.00 | |
| 32. | Л. Карыба | 50.00 | |
| 33. | А. Маркевіч | 50.00 | |
| 34. | А. Монід | 50.00 | |
| 35. | В. Рудніцкі | 30.00 | |
| 36. | М. Бубновіч | 30.00 | |
| 37. | Я. Боўшар | 22.00 | |
| 38. | А. Лемешэўскі | 20.00 | |
| 39. | Л. Жураўскі | 20.00 | |
| 40. | М. Ячнік | 15.00 | |
| 41. | Л. Ячнік | 10.00 | |
| 42. | М. Прыстаўка | 10.00 | |
| 43. | М. Курыловіч | 10.00 | |
| 44. | Б. Савіч | 5.00 | |
| 45. | М. Коробэц | 5.00 | |
| 46. | М. Ганько | — | 500.00 |
| 47. | Б. Гагуля | — | 500.00 |
| | разам | $ 4052.00 | $ 3000.00 |

31 жнівеня 1969 г.

ЗА ВАШУЮ АХВЯРНАСЬЦЬ ШЧЫРА ДЗЯКУЕМ!

**Парахвіяльная Рада БАПЦ ў Таронта, Галоўная Управа ЗБК, Трастыя будынку.**

# ВЯСЕЛЬЛЕ Ў НЬЮ БРАНСЬВІКУ



У сыботу 9 жніўня адбыўся шлюб Расьціслава Войтанкі зь Ленаю Чарненка. Малады — адвакат, сябра Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі, нядаўні ўдзельнік Гуртка беларускіх народных танцаў і дзейны сябра БАЗА. Маладая — студэнтка Фарлей-Дыкэнсон унівэрсытэту, студыюе гішпанскую мову.

На месцы прыгадаць, што Расьціслаў — сын доктара й сьвятара а. Віктара й матушкі Марыі Войтанкаў, дзейных і ахвярных у нашым нацыянальным і грамадзкім жыцьці, ды ўнук сьв. памяці мітр. прат. Сьцяпана Войтанкі.

Лена — дачка Аляксандра й Ліды Чарненкаў з Патэрсону, унучка сьв. памяці прат. а. Гаўрылы Зубава з Рагачова, з Магілеўшчыны.

Абрад шлюбу выканаў а. Васіль Кендыш, сьвятар БАПЦарквы Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку, з удзелам поўнага царкоўнага хору пад кіраўніцтвам выдатнага рэгента Філярэта Родзькі.

Царква была выпаўненая людзьмі й прыгожай маладой дружбаю. Наймалодшымі былі Таня, сястра маладой і Натальля ды Віктар Бакуновіч, пляменьнікі маладога, якія спрытна завіхаліся з доўгім вэлюмам.

Дружбантамі былі: адвакат Валентын Гарошка й студэнты каледжаў Юрка Азарка, Юрка Курыла, Алік Харавец і Вітаўт Тумаш — усе дзейныя сябры нашых згуртаваньняў.

Дружкамі былі: Валя, сястра маладой, Барбара Гэльвіг, другой стрэчы сястра маладога, ды школьныя сяброўкі маладой.

Сваты д-р Уладзімер Набагез і Леанід Герасіменка ды свацьці Людміла Бакуновіч і Надзя Румянцова дапаўнялі вясельны пэрсанал згодна старога беларускага звычаю.

А на вясельны пачастунак сабралася каля 300 асобаў, якія весяліліся й танцавалі пад ігру беларускай аркестры Уладзімера Бычкоўскага.

Прывітальнае слова меў першы дружбант Валентын Гарошка, сябра й шчыры прыяцель маладога. Ён пажадаў маладажонам шмат шчасьця і „сто год", што прысутныя падтрымалі дружным сьпевам. Сябры Гуртка народных танцаў пад умелым кіраўніцтвам д-ра Альы Орса-Романо й правадырствам Аўгена Лысюка выканалі некалькі беларускіх народных танцаў, як свой вясельны падарак былому сябру.

Маладажонам Лене й Расьціславу Войтанкам трэба пажадаць шчасьлівага й радаснага сужэнства на даўгія гады. Расьціслаў хутка йдзе ў армію адбываць вайсковую службу ў ступені першага лейтэнанта. Трэба спадзявацца, што вернецца дамоў у добрым здароўі і з высокай вайсковай ступеняй.

Вясельніца

### З КАНАДЫЙСКАЕ ХРОНІКІ

**Адкрыцьцё працоўнага году (1969-70) ЗБЖК** адбылося 14-га верасьня ў нядзелю. Зборка была прысьвечаная дэтальнаму плянаваньню ўдзелу арганізацыі ў сьвяткаваньні 15-цігодзьдзя БАПЦ у Канадзе. Удзел заключаецца ў афармленьні залі Цэнтру, цэрквы й прыгатаваньні прыняцьця на дзень урачыстасьці.

**Паседжаньне Галоўнае Управы ЗБК.** 14-га верасьня на сваім чарговым паседжаньні Галоўная Управа ўдакладніла плян працы да канца году, чым распачала й падрыхтоўку да 20-га Агульнага Зьезду ЗБК. Разглядаліся магчымасьці папаўненьня апарожненай выкупам гіпатэкі на доме БР-ГЦ касы, ды выпаўненьня матар'яльных, а тым самым і маральных забавязаньняў у дачыненьні да „Беларуса".

## Падзяка

Шчыра дзякую Суродзічам з Мэльбурну за аказаную мне й маім дзецям грашовую дапамогу, якія не забыліся нас у нашым цяжкім горы ды з хрысьціянскай любоўю прыйшлі нам з дапамогаю. З двух зьбіральных лістоў я атрымала 164.30 даляраў.

Дарагія Суродзічы Мэльбурну, з глыбіні душы маёй прымеце шчырае беларускае дзякуй.

Ліля Яцкевіч

### ДА ВЕДАМА БЕЛАРУСКІХ ПАЛЯЎНІЧЫХ

Беларускае Сяброўства Паляўнічых Амэрыкі пачынае сёлетні паляўнічы сэзон зьездам 25 кастрычніка ў беларускім асяродку „МІР" з мэтаю пазнаньня лесу, паляўнічае стрэльбы ды разьмеркаваньня супольных паляваньняў. Спадарыні гарача вітаныя й міла бачаныя ў Сяброўстве.

### ЦІ ВЕДАЕЦЕ

колькі нашых людзей загінула ў самаходавых выпадках? Колькі было пакалечаных?

Папярэдзьце калецтва й цярпеньне ўжываньнем ахоўнага шалому ў самаходзе. Гэткі шалом каштуе шмат менш і выгаднейшы, чымся разьбітая галава!

**Грамадзкая абвестка, аплачаная д-рам Віктарам В. Васілеўскім.**

# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

За апошні месяц (ад справаздачы ў папярэднім нумары газэты) паступілі ў касу нашае газэты падпіска й наступныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":

| | |
|---|---|
| 1. Япархіяльная Управа БАПЦарквы | 100.00 |
| 2. Сабрана на ўгодках сп-ва Родзькаў | 78.00 |
| 3. Д-р М. Смаршчок | 50.00 |
| 4. Інж. М. Рагуля | 50.00 |
| 5. БАЗА, Нью Ёрк | 50.00 |
| 6. Д-р Р. Гарошка | 40.00 |
| 7. Д-р М. Шчорс | 20.00 |
| 8. С. Антонік | 20.00 |
| 9. В. М. | 20.00 |
| 10. Н. Кушаль | 15.00 |
| 11. Інж. В. Станкевіч | 15.00 |
| 12. А. К. | 15.00 |
| 13. П. Орса | 12.00 |
| 14. Інж. Ч. Ханяўка | 10.00 |
| 15. Інж. П. Алексы | 10.00 |
| 16. М. Чатырка | 10.00 |
| 17. Н. Куліковіч-Градэ | 10.00 |
| 18. БАЗА, Нью Ёрк, за абвестку | 10.00 |
| 19. БАЗА, Дэтройт, за клішэ | 10.00 |
| 21. П. Пачопка (Аўстралія) | 6.10 |
| 20. С. Дудар | 8.00 |
| 21. П. Пачопка (Аўстралія) | 6.00 |
| 22. С. Красоўскі | 6.00 |
| 23. Т. Кольба | 6.00 |
| 24. Н. Кіркевіч | 6.00 |
| 25. К. Верабей | 6.00 |
| **БЕЛАРУСЫ КАНАДЫ** | |
| 26. Д-р Р. і В. Жук-Грышкевічы | 40.00 |
| 27. ЗБК | 30.00 |
| 28. Я. Хрэноўскі | 20.00 |
| 29. Д-р Я. Скурат | 12.00 |
| 30. Л. Рагуля | 10.00 |
| 31. А. Лабэцкі | 10.00 |
| 32. М. Пашкевіч | 6.00 |
| 33. А. Прыстаўка | 6.00 |
| **Разам:** | **717.10** |

Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" выказвае шчырае беларускае дзякуй!

### ДА ВЕДАМА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ!

**На нядаўна разасланыя кажнаму індывідуальна нашыя заклікі прыйсьці й сёлета з матарыяльнаю дапамогаю нашай газэце шмат хто адгукнуўся прыхільна, прысылаючы большую ці меншую ахвяру або хоць нармальную падпіску.**

**Але былі й такія, што ня толькі ня прыслалі ніякай ахвяры або хоць-бы й падпіскі, але й не ўважалі за патрэбнае навет адказаць на нашыя заклікі.**

**Вельмі нам прыкра, але тым, што ня ўрэгулявалі падпіскі, мы будзем змушаныя з наступнага нумару спыніць далейшую высылку газэты, калі яны ў міжчасе ня ўрэгулююць падпіскі.**

**Гэтае-ж самае даручаем зрабіць і ўсім Прадстаўніком нашае газэты паза Нью Ёркам.**

**Выдавецтва газэты „Беларус"**